да віны, будзеце яшчэ руку царскую лізаць за ласку павесіць вас, як варагоў Бога й народу!

Кажуць сяньня аб вайне. Крычаць аб падпальніках. аб злачынцах ужо новае вайны. Вайна сяньня залежыць толькі ад Савецкага Саюзу. Толькі Расея можа пачаць вайну, і пачне толькі тады, калі будзе пэўная, што «шапкамі закідае». А як ня будзе гэтае пэўнасьці — Расейцы пойдуць назад, будуць бурчэць, мармытаць, крычэць. Вышынскі, Грамыка будуць лаяцца, але калі-б гэтая лаянка зайшла задалёка — іх адклічуць, навет засудзяць і павесяць, калі гэта будзе канечнае, каб заспакоіць заходнікаў. Могуць навет і пачаць вайну, ды калі толькі дазнаюць першых няўдачаў і праблескаў вялікае рызыкі — скапітулююць, і то так, што заходнікі й не спазнаюцца, калі гэта сталася, калі гэты мядзьведзь захварэў на ведамую сваю хваробу.

Бязумоўна, ляжачага ня б'юць, а хворага лечаць і будуць лячыць, а якраз гэтага трэба будзе, каб закончыць рызыкоўную гульню. Молатаў, Жданаў і сотні іншых могуць згінуць, засуджаныя за «правакацыю», за падбухторваньне «цара» да вайны. Сталін — ня Гітлер, і вельмі кідацца ганарова ня будзе. Ён згодзіцца пайсьці зь мяшком на галаве ня толькі ў Каносу, але і ў Вашынгтон пехатою, каб толькі быў мір; ён-жа — міралюбны бацька народаў...

Вайны ня будзе, калі толькі Расея пачуе сілу Захаду — аб гэтым ужо гавораць сотні палітыкаў у Амэрыцы. Ужо і ў Эўропе зразумелі некаторыя гэтую наіўна-простую праўду. Хай толькі зьнікнуць пятыя калёны ў краёх Захаду, хай толькі народы духова ўзброяцца супраць расейскае прапаганднае зброі, як вайна нэрваў, выйграная, і ніякае «трэйцяе вайны» ня будзе на даўгія гады.

Часта страшаць Расею атомнай бомбаю. Бомба можа запалохаць народы Расейскай імпэрыі, але той, хто жыў у СССР, разумее лепш за стратэгаў: нельга мацней запалохаць жыхарства, як яно запалоханае, загіпнатызаванае ў страху тэрору. Для жыхарства СССР няма нічога страшнейшага над той страх, пад якім яно жыве. А кучку «правадыроў» палохаць атомнай бомбаю? Не, савецкі імпэрыялізм можна запалохаць толькі нутраной апдорнасьцяй на ягоную духова-атомную зброю: камуністычную прапаганду. Амэрыканская вытворчасьць перамагла імпэрыялізм Гітлера і Ко. Імпэрыялізм расейскі ў сяньняшняй ягонай экспансіі можна перамагчы толькі нутраной сілай і сілай дыплёматычнага ціску. Калі расейскі шпіянаж данясець аб зьліквідаваньні камунізму ў Амэрыцы й на заходзе Эўропы — досыць звычайнага ультыматуму дыплёмата, каб Саветы ня толькі не пачалі вайны, але адступілі і з усіх краёў усходняй Эўропы за свае старыя межы, а бадай і згадзіліся на карыстаньне з «права на поўнае алучэньне» і савецкіх рэспублікаў. Бязумоўна, адступаючы, яны крычэлі-б і вопратку дзерлі-б, пыл дарожны сыпалі-б на голаў. Не пашкадавалі-б тыпова расейскае мацернае лаянкі на ўсіх канфэрэнцыях, нарадах і ў нотах, але адступалі-б, і то што раз барджджэй, калі толькі пабачылі-б зацятасьць і пэўнасьць супраць сябе.

Народы Захаду мусяць зразумець канечнасьць змаганьня з ворагам № 2 чалавецтва — расейскім імпэрыялізмам. І калі толькі гэта зразумеюць — вораг на нейкія гады будзе пераможаны, і вайны ніякай ня будзе. Толькі той, хто сяньня скажа Саветам: годзе! — будзе творцам і ахвяруе Эўропе й Зямлі мір. Таму будзе належаць мірная ўзнагарода Нобэля. Кажны-ж прыхільнік савецкае палітыкі й прыязьні з былым ворагам № 1 — гэта толькі запраўдны, сьведамы ці падсьведамы, набухторнік да вайны. **Др. Вікт.**

## ЗАБАРОНА САВЕЦКІХ ДРУКАЎ

**Бэрлін (ДЭНА).** Амэрыканскае вайсковае кіраўніцтва на Нямеччыну забараніла прывоз у Амэрыканскую зону ўсіх выдаваных на савецкі дазвол публікацыяў, продаж, пашырэньне й выстаўляньне іх у амэрыканскай зоне аж да часу, калі савецкае вайсковае кіраўніцтва дапусьціць неабмежанае пашырэньне выдаваных з амэрыканскага дазволу публікацыяў у савецкай зоне.

Прадстаўнік брытанскага вайсковага кіраўніцтва заявіў, што брытанскія ўлады ня маюць намеру ў даступным агляду часе выдаць адпаведную забарону для брытанскае зоны.

## ЛОВЯЦЬ НОВЫХ «НЕЗВАРАЧЭНЦАЎ»

Як піша газэта «Die Welt», у савецкай акупацыйнай зоне савецкая ваенная паліцыя разам зь нямецкай зрабіла шырокую аблаву, шукаючы асобаў, што нелегальна жывуць у савецкай зоне. Былі правераныя ўсе памешканьні, чыгункі, амнібусы й паасобныя ўстановы.

Аблава была зьвернутая ня гэтулькі супраць Немцаў, колькі супраць уцекачоў з савецкае арміі, а найбольш супраць савецкіх сем'яў, што атрымалі загад зьвярнуцца ў СССР, але, не падпарадкаваўшыся яму, засталіся жыць нелегальна.

## ПАЧЫНАЮЦЬ ГНАЦЬ КАМУНІСТЫХ?

**Гэльсінкі (ДЭНА).** Паводля АФП, фінскі парлямэнт 81 голасам супраць 61 выказаў недавер міністру нутраных справаў — камуністаму Лейно. Фінскі прэзыдэнт Паасыківі зьняў Лейно зь ягонае пастані й прызначыў на ягонае месца дасюлешняга міністра ўзгадаваньня, сацыял-дэмакрата Кільпі.

Прычына недаверу да Лейно й зьняцьця яго — незаконная выдача ім 10 фінскіх падданых і 10 беспадданых Савецкаму Саюзу. Апрача таго, Лейно быў абвінавачаны ў парлямэньце з боку сацыял-дэмакратаў, кансэрватараў, лібэралаў і дэпутатаў шведзкае партыі ў тым, што ён ператварыў гаспадарстваўскую паліцыю ў баёвы аддзел камуністычнае партыі. Дэпутаты гэтых партыяў цьвердзілі, што паліцыя Лейно праводзіла нелегальныя арышты некамуністых, парушала таямніцу лістоў і падслухвала тэлефонныя гутаркі.

# АДУСЮЛЬ

## ПАД ЗНАКАМ МІЖНАЦЫЯНАЛЬНАГА СУПРАЦАЎНІЦТВА

Канечная патрэба змаганьня з бальшавізмам адзіным супольным фронтам усіх паняволеных і пагрожаных ім народаў прывяла да паўстаньня цэлага раду міжнацыянальных палітычных арганізацыяў. Іхнае заданьне ня толькі каардынаваньне гэтага змаганьня, але й выпрацоўваньне асноваў ды прынцыпаў будучых міжгаспадарстваўскіх сувязяў і супрацаўніцтва гэтых народаў пасьля зьнішчэньня бальшавізму.

Адна з гэтых арганізацыяў — Антыбальшавіцкі Блёк Народаў (АБН) — задзіночвае блізу ўсе народы сярэдня-ўсходняй і паўдзённай Эўропы й падсавецкай Азіі ды выяўляе вельмі інтэнсыўную дзейнасьць як на эміграцыі, так і ў самых гэных краёх. Беларусы — дзейныя сябры АБН ад самага паўстаньня гэтае антыбальшавіцкае арганізацыі.

Цяперака адбылася важная падзея ў жыцьці АБН — ягоны гадавы зьезд 18-19 травеня сёлета. У зьезьдзе ўзяло ўдзел 12 нацыянальнасьцяў-сяброў АБН: Беларусы, Украінцы, Летувісы, Латышы, Казакі, Славакі, Сэрбы, Грузіны, Вугорцы, Туркестанцы, Паўночныя Каўказцы, Ідал-уральцы. Да АБН належыць яшчэ колькі іншых народаў, як Харваты, Баўгары, Румыны, Чэхі й інш., якія аднак із тэхнічных прычынаў ня здолелі ўзяць удзелу ў зьездзе.

На зьезьдзе былі заслуханыя й абмеркаваныя рэфэраты аб сучасным міжнародным палажэньні й ролі ў ім АБН, аб нутраной сытуацыі народаў АБН, аб ідэялёгічных асновах АБН ды аб стратэгіі й тактыцы вызвольнага змаганьня з бальшавізмам. Нарэшце быў прыняты маніфэст да народаў АБН і рэзалюцыя супраць неўпаўнаважаных і бясправўных выступленьняў расейскіх імпэрыялістых ад імя нерасейскіх народаў СССР.

На зьезьдзе адбыліся таксама перавыбары кіраўнічых органаў АБН. У Раду АБН выбраныя: на старшыню — Латыш, на першага заступніка старшыні — Туркестанец, на другога заступніка старшыні — Сэрб і на сакратара — Грузін. У Выканальны Камітэт АБН увайшлі: на старшыню — Украінец, на першага заступніка старшыні — Беларус, на другога заступніка старшыні — Летувіс, на генэральнага сакратара — Вугорац і на заступніка генэральнага сакратара — Славак. Апрача гэтага, згодна із статутам, старшыні дэлегацыяў іншых народаў уваходзяць у склад Камітэту АБН. У Ганаровы Суд АБН выбраныя: на старшыню — Беларус, на сяброў — Баўгарын і Казак.

Беларуская дэлегацыя ўзяла вельмі актыўны ўдзел як у самым зьезьдзе, так і ў падрыхтаваньні яго. Наагул, праца зьезду праходзіла ў прыязнай атмасфэры ўзаемнага даверу й пашаны ды была запраўднай маніфэстацыяй канечнасьці супольнага змаганьня з бальшавізмам і міжнацыянальнага супрацоўніцтва.

## ДАЮЦЬ РАДЫ

У Ангельшчыне адчуваецца войстрая нястача спажывецкіх прадуктаў, а найперш збожжа. Каб гэта залагодзіць, кіраўнічыя колы Ангельшчыны хочуць у Танганайцы (Усходняя Афрыка) вышляхтаваць пушчу на колькі сот квадратных кілёмэтраў, пабудаваць там дарогу, сёлы, гарады й порт ды культываваць на разаранай зямлі збожжа. Ня выключана, што яшчэ зьвернуцца ў гэтай справе па дапамогу да ДП.

## ДАЮЦЬ ЦЯГУ

У Чэхаславаччыне пасьля камуністычнага перавароту грамадзяне адчуваюць прадсмак бальшавіцкага пекла і ўцякаюць зь яго, як хто можа. У Мюнхен прыляцелі ўжо два самалёты з Чэхаславаччыны, прычым выявілася, што ў вабудвух выпадках пасажыры пісталетамі загразілі лятуном і змусілі іх ляцець з Прагі ў Мюнхен. Агулом із Чэхаславаччыны ўцякло ў Баварыю 2 000 чалавек. Баварскі ўрад ня мае магчымасьці пракарміць гэтых людзей. Таксама шмат Вугорцаў уцякае з бальшавіцкага «раю». Апошнім разам футбольная дружына, прыбыўшы з Будапэшту ў Вену, адмовілася зьвярнуцца на бацькаўшчыну.

## ІЗ ЗАВЯЗАНЫМ РОТАМ

Патаёмныя часапісы ў Празе пачалі выходзіць адразу па захопе ўлады камуністымі.

Адна з гэткіх газэтаў завецца «Мы вернемся». Газэты асабліва закідаюць ураду зьняволеньне свабоды друку.

Аднойчы ўраньні паліцыянты сталіцы Чэхаславаччыны мусілі дабірацца да вяршаліны помніка Яна Гуса, бо рот статуі Гуса быў завязаны хусткай. На падножжы гэтага помніка, як ведама, высечаныя словы самога Гуса: — «Гавары толькі праўду!»...

## УЦЯКАЧ У СКРЫНЦЫ

Нядаўна ў Ротэрдам прыбыў адзін грамадзянін Чэхаславаччыны, прозьвішча якога не пададзена. Ён адбыў дарогу ў Галяндыю ў вялікай скрынцы. Выносячы гэтую скрынку з вагону, чыгуначнікі пачулі ў ёй нейкія падазроныя гукі. Калі скрынку адчынілі, у ёй аказаўся зусім змораны мужчына, які ледзь здолеў вылезьці із скрынкі. Ягоная дарога трывала чатыры дні. Прычына ўцёкаў — новыя бальшавіцкія парадкі ў Чэхаславаччыне. Эміграцыйная ўстанова прыняла новага ўцекача пад сваю апеку.

## ВАЛЮТНАЯ РЭФОРМА Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

**Парыж (ДЭНА).** Вялікабрытанія, Францыя й ЗША, як паведамляе АФП, згадзіліся правесьці адначасна ў сваіх зонах Нямеччыны валютную рэформу. Пра дату правядзеньня нічога не паведамляецца. Усё-ж мяркуецца, што такая рэформа ня ўвойдзе ў сілу перад пачаткам лета. Адзіны пункт, у якім яшчэ няма канчальнае яснасьці, гэта пытаньне ўцягненьня ў рэформу трох заходніх сэктараў Бэрліну.

# НА ТЭМЫ ДНЯ

## ДА СПРАВЫ ЎТВАРЭНЬНЯ СУСЬВЕТНАГА ЦЭНТРУ БЕЛАРУСКАЕ ЭМІГРАЦЫІ

Сярод нашае эміграцыі ўжо даўно дыскутуецца пытаньне аб стварэньні адзінага цэнтру ўсебеларускае эміграцыі з усяго сьвету.

Такія цэнтры маюць ужо даўно блізу ўсе эміграцыі суседніх нам і нясуседніх народаў. Калі-ж у нас ня было гэта яшчэ праведзена, дык былі на тое зусім выпраўдальныя прычыны.

Цяпер справа гэтая і ў нас у поўнасьці насьпела да рэалізацыі. Сягоньня мы ўжо ня бачым блізу што ніводнага краю ў сьвеце, з тых, дзе перабывае ў большай ці меншай меры нашая эміграцыя, каб яна ня была зарганізаваная, ці, лепш кажучы, каб асяродкі гэтыя не рэпрэзэнтаваліся тэй ці іншай арганізацыяй. Таму паўстаньне цэнтралі, як каардынацыйнага пункту беларускай эміграцыі ў сусьветным маштабе напрошваецца само сабой. Аднак дзеля рэалізацыі гэтае ідэі бязумоўна патрэбны зьезд прадстаўнікоў арганізацыяў, ці прадстаўнікоў ад цэнтраляў арганізацыяў паасобных краёў.

«Хаўрус Беларусаў» у Францыі, як адна з найстарэйшых беларускіх эміграцкіх арганізацыяў у Эўропе, пастанавіла узяць на сябе ініцыятыву ў падрыхтаваньні скліканьня ўсеэміграцкага беларускага зьезду й прапануе сваё пасярэдніцтва ў гэтай справе.

Таму просіцца ўсе беларускія арганізацыі і ўстановы выказацца ў закранутай справе, пастараўшыся пры гэтым асабліва падаць сваё дачыненьне й прапановы да наступных пытаньняў:

1. Час скліканьня зьезду.
2. Край і месца яго.
3. Якой арганізацыі даручыць тэхнічны бок справы скліканьня й правядзеньня зьезду.
4. Праекты што да праграмы зьезду.

Адказы просьба кіраваць на адрыс:

Union Bielorussienne en France „Chaŭrus" — 65, Rue des Gravilliers — Paris 3.

**Хаўрус Беларусаў у Францыі.**

## ПЕРШЫЯ КРАСАЧКІ

З ангельскае зоны, ад Беларусаў Зэедорфу, ідзе алярм: паклікаючыся быццам-бы на загад Галоўнае Гасподы ІРО на Ангельскую зону, усім Беларусам прапануюць перапісаць сваю беларускую нацыянальнасьць на польскую, украінскую або нявыясьненую. Мае быць зьняты зь лягеру навет наш нацыянальны сьцяг...

Нашыя суродзічы войстра й моцна ўаргумэнтавана запратэставалі супраць гэтага незразумелага ім і неспадзяванага зьдзеку й гвалту. Яны ставяць да ведама аб гэтым і нашую газэту. Мы із свайго боку разаслалі іхны пратэст, куды толькі маглі, у тым ліку і ў Галоўную Гасподу ўсяе ІРО ў Жэневе, ды пастараліся высьвятліць гэтую справу. На аснове гэтых высьвятленьняў можам запэўніць нашых суродзічаў што:

1) Справа гэтая мае чыста-мясцовы характар, які ня выходзіць пакуль за межы ангельскае зоны. **У галоўнай Гасподзе ІРО ў Жэнэве нашая нацыянальнасьць вызнаная й зусім не квэстыянуецца.** Тое самае маем і ў Амэрыканскай Зоне, на што зусім добра паклікаюцца ў сваім пратэсьце зэедорфцы. Пасьля інтэрвэнцыі ў Жэнэве, робленай адпаведнымі дзеячкамі ў сувязі зь перасланьнем туды зэедорфскага пратэсту, трэба спадзявацца, справа будзе зьліквідаваная бязь сьледу.

2) Справа гэтая аднак выкліканая асабліва ажыўленай у Ангельскай зоне акцыяй зарубежніцтва, узначаленага цяпер авантурыстычнай і гітлерыстычнай астроўшчынай. Гэтая акцыя моцна падрывае давер да нашае нацыянальнасьці з боку адпаведных уладаў. Усе гэтыя д-ры Мінкевічы, што дакучаюць сваім перапісваньнем нацыянальнасьці то на польскую, то на беларускую, то мо яшчэ на якую іншую, спрычыняюцца да вытварэньня ў вадпаведных дзейнікаў уражаньня, быццам мы — запраўды нейкая «нявыясьненая нацыянальнасьць», або можа толькі проста партыя, сэкта, ці яшчэ горш — прафэсія, «каньюнктура», на якой хоча зарабіць, вылезьці й рэабілітавацца ніхто іншы, як ведамы шматразовы перакінчык-квісьлінг, авантурысты Астроўскі з цэлай кампаніяй сваіх нахлебнікаў.

Таму гэтыя першыя красачкі практычнага дзеяньня астроўшчыны павінны добра перасьцерагчы нашых суродзічаў усюды, ня толькі ў Зэедорфе ці ў вадной Ангельскай зоне. Хто падстаўляе свае плечы для рэабілітацыі й далейшага папісваньня авантурыстаму, безнадзейна ўмазанаму ў непапулярныя ані сяньня, ані заўтра-пазаўтра, аж павек, нягоднасьці — ня толькі бярэць на гэтыя плечы сабе самому цяжар магільнага каменя, але й адначасна, хоць мо й нясьведама, падстаўляе нагу ўсім іншым суродзічам, што ня маюць ніякага жаданьня самахоць падаць жыўцом у палітычную яміну-магілу.

Беларусы, Беларусы!
Жыцьця помніце закон.
Сьцеражэцеся спакусы,
Духаў зла ганеце вон! —

як добра пісаў калісь адзін паэта.

## ЗЬБІРАЙЦЕ ВЕСТКІ ПРА АХВЯРЫ ВАЙНЫ

На просьбу Рэгенсбурскага Аддзелу Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў, рэдакцыя зварачаецца з заклікам да ўсіх нашых суродзічаў на эміграцыі зьбіраць і паведамляць дадзеныя пра ахвяры вайны нашага народу.

Просіцца падаваць весткі аб сьмерці нашых людзей — ахвяраў вайны, аб абставінах гэтай сьмерці, аб месцы пахаваньня й іншых фактах ды акалічнасьцях, з гэтым зьвязаных.

Усе матар'ялы просьба кіраваць на адрыс рэдакцыі «Бацькаўшчыны» з надпісам: «Ахвяры вайны».

# СПРАВЫ ДП

**УСЮДЫ ДОБРА, ДЗЕ НАС НЯМА, АБО ЯК «МАДЭРН» БОКАМ ВЫЛАЗІЦЬ**

**(Ліст із Бэльгіі).**

Калі ў лягерах ДП зьявіліся першыя абвесткі аб магчымасьці эміграцыі ў Бэльгію, шмат людзей, якіх гняло палажэньне на ласкавым хлебе, наважылі ехаць, ехаць хоць у капальні, абы вызваліцца ад усялякіх прыгодаў, на якія гэтак багатае жыцьцё ДП.

Але замік адных прыгодаў зьявіліся іншыя. Першае — гэта давялося на 3 месяцы пакінуць у Нямеччыне сваіх малых, цэлую сям'ю. Аднак рызыкнулі й паехалі.

Два дні, і мы у першым бэльгійскім горадзе Гербэрталь — сустрэча наводзя таго, як сустракалі сваім часам «остаў». Давялося ад 10 гадз. увачары аж да 8 раньня сядзець, ня выходзячы з вагонаў, пад даглядам людзей у капялюхах. А апошнія гыркалі гэтак, што й ня ведаючы мовы, зразумееш, чаго ён хоча. А дзеля свае собскае бадзёрасьці яны трымалі рукі ў кішэнях, мацаючы натуральныя бэльгійскія браўнінгі.

Пасьля ў рэшце рэштаў мы дачакаліся, што дазволілі выйсьці й перакінуць рэчы у цягнік, які стаяў побач. Прывезьлі ў Шарлеруа, а там загадалі сесьці на грузавікі, у якіх і давезьлі да месца. Зьлезьлі — бачым: поле, а на полі кадушкі вялізныя, зялезныя, — гэта вам, кажуць, кантына, тут і есьці і жыць будзеце. Гэтак парабілі нас Дыягенамі, але той, хто сядзеў-бы ў гэткай зялезнай кадушцы, доўга ня вытрываў-бы, бо калі на дварэ горача, дык у нас, як у лазьні, а калі холад, дык як у Сібіры. Заставалася толькі ўзяць у рукі ліхтар, каб шукаць чалавека, які параіў-бы, як выйсьці з гэтага й пацікавіўся-б нашай доляю. «Кантыну» тут звычайна трымаюць Італьянцы, штодня макароны ды макароны, пакуль нашыя жываты, пасьля гароху лягернага, да іх прызвычаіліся — цяжкавата было. За дзень прызначылі на працу, а за тыдзень аглядаў здароўе доктар, але вынікі агляду, мабыць, былі добрыя, бо ніхто нікога не пераводзіў з працы цяжкой на лягчэйшую й наадварот.

Пры вэрбаваньні рэклямавалася, што капальні «мадэрн», але калі нас спусьцілі ўніз, дык гэты «мадэрн» прымусіў нас 3 кілёмэтры прайсьці ўгнуўшыся, бо бэлькі калідораў, якія ставіліся 50 год таму, так аселі, што ў некаторых месцах і вагонка з вугальлем ледзь пройдзе. Прывялі нас у канец аднаго калідору й кажуць: «Лезьце!» Стаём і пазіраем, куды-ж лезьці, бо ўваходу ня відаць. А пасьля наш майстра паказаў у доле, каля сьценкі, дзірку, мэтраў гэтак тры ўшыркі і ўвышкі на 28 цм. Ізноў стаём, маркуем — як-жа тут лезьці? Узлаваўся наш Бэльгіец, сеў, прасунуў спачатку ногі ў дзірку, зьняў свой капялюх, бо не прайшоў-бы, бокам яго пацягнуў і зьнік. Ну, а мы ўжо за ім, так-сяк, як тыя яшчуркі, праплішчыліся. Улезьлі й ляжом, бо навет і галаву ўзьняць няможна — столь ня пушчае. Тут нам майстра, паўзучы, як вужака, на мігі паказаў, што і як мы рабіць маем, каб вугальле на дол ськінуць. І вось, рукамі й нагамі соўгалі мы вугальле да канца гэтае дзіркі, удаўжкі да 200 мэтраў з ухілам на 40°. Пасьля такое працы, абмеркаваўшы ўсё, мы дайшлі да высновы, што «мадэрн», мабыць, таму, што ў руках у нас былі электрычныя лямпкі, і б'юць тут вугальле ня кайлам, а пнэўматычным малатком, чаго ня было ў мінулым стагодзьдзі.

Праца трывае 8 гадзінаў, пазьменна, ды калі пачаў працаваць уначы, дык да канца кантракту гэтак і застанешся. Заработкі нашыя ніколі не здаганяць заработкаў Бэльгійца, бо апошні за 1 «капу» вугальля атрымае 250 фр., а мы 188 фр., але затое адлічэньні з заработку — куды як наперадзе.

Сямейныя за жытло (2 пакоі й кухня) у бараку з цымэнтавай падлогай, на якой, як толькі на дварэ дождж, дык вада, ня кажучы ўжо пра сьцены, што проста плачуць і мохам цьвітуць — плацяць 225 франкаў на месяц. Бэльгіец-жа мае 4 пакоі ў добрым будынку — за 125 франкаў. За электрычнасьць (лічнікаў сумысьля ня ставяць) іншым разам за два месяцы 800, ато й 900 франкаў зьдзяруць, калі кілёўат каштуе ўсяго 350 фр. Бывае гэтак: заробіш якіх 1 200 франкаў на тыдзень, а атрымаеш 200-300, бо апрача кватэрных і электрычных — падаткі дзяржаўны, адлічэньні ў сацыяльны сэктар капальні і ў касу хворых... А тут яшчэ і штрафы, то затое, што ня там распранаўся, то затое, што ўначы крыху здрымнуў, то затое, што няўважліва майстру адказаў, то затое, што раней у вінду на ўздым сеў. Былі-б толькі зарабляныя франкі, а за што вылічаць знойдуць.

Ставяцца гэтак, як да палонных, бо мясцовыя камуністыя, відаць, на загад вышэйшых пусьцілі показку, што мы ўсе бяз вынятку былыя вайскоўцы, што ў нямецкім войску былі, а пасьля, прасядзеўшы ў Амэрыканцаў некаторы час за дротам, прыехалі, каб падмяніць Немцаў палонных, якія перад намі тутака былі. Адгэтуль, як кажуць, і ўсё такое. Кантракты, што мы падпісалі яшчэ ў Нямеччыне, абавязваюць толькі нас. Захварэеш, пойдзеш да мясцоваго доктара — той вызваляе ад працы, а тады трэба да доктара капальні, а мо ты сымулянт. Калі так — каса хворых грошай ня плаціць, бо кантроль не згадзіўся з дыягназам першага доктара. Ня выйдзеш на працу 3-4 дні — турма ў Брусэлі. А там чакай 3-4 месяцы, пакуль зьбяруць гэткіх, як ты, колькі сот, і тады выправяць, адкуль прыехаў. А чаму ў турму трапляеш — і сам ня ведаеш, мо толькі затое, што не схацеў згубіць дашчэнту сваё здароўе на працы ў капальнях «мадэрн».

Адзінае, што добра, дык гэта крамы. І чаго ў іх тольькі няма! І вось гэта змушае лезьці ў дзірку, а пасьля працы прыемна лятуцець, што ты сабе купіш за заробленыя грошы, калі... ня вылічаць. Адзінае жаданьне — дачакацца канца кантракту.

Ці варта ехаць сюды? Не... Была-б шыя, а гэткі хамут усюды знойдзеш.

**В. Камаровец.**

**РЫГОР ДАНІЛЕЎСКІ**

**БЕЛАРУСЬ НЕ СПАКАРЫЦЬ**

Кузьні не знайсьці у цэлым сьвеце,
Каб магла скаваць такі лянцуг,
Што ў няволі у цяжкой навекі
Увязьніў-бы Беларусі дух.

І такой няма на сьвеце глушы,
Каб хоць частку ў ёй маглі-б схаваць
Крыўды тэй, якой за горла душыць
Наш народ чырвоная Масква.

Не, вадою чыстаю крынічнай
Катам не абмыць крывавых рук,
Не схаваць нідзе сваіх абліччаў,
Што прынесьлі нам бязь ліку мук.

І за сьлёзы горкія сіротаў,
І за сьмерці страшныя бацькоў —
Прыйдзе час расплаты вам, іскарыёты —
— Кроў за кроў!

Зоркіх воч ня засьціць вам гнілою матай,
Беларусь навек не спакарыць!
Перамогаю над вамі
наш штандар узьняты,
Бел-чырвона-белым поламем гарыць.

**ЭМІГРАЦЫЯ Ў АЎСТРАЛІЮ**

Неафіцыйная, нядаўна пасланая з Канбэры ў Лёндан прапанова што да істотнага пашырэньня эміграцыі ў Аўстралію адлюстроўвае тутэйшае ўсё большае перакананьне, што нястача працоўнае сілы належыць да найпякучайшых праблемаў Брытанскага Суспольства Народаў і адначасна мусіць разглядацца з гледзішча разьвязкі ўнутрыкраёвых пытаньняў.

Трэба прадукаваць харчы для Ангельшчыны; канечна трэба здабываць золата, каб памагчы ёй выйсьці зь нястачы даляраў, трэба стварыць будаўляны матар'ял, каб даць рады зь нястачаю памешканьняў у Аўстраліі. Краёвы ўрад мае на воку вялікія праекты воднага рэзэрваваньня, сілавых уладжаньняў ды іншых грамадзкіх работаў, што патрабуюць шмат тысячаў работнікаў. Сяньня паўстаюць новыя рынкі, якія чакаюць на вынікі працы новае прамысловасьці, што толькі паўстае па вайне. Пакуль ня будзе магчыма здабыць караблі для перавозу эмігрантаў і збудаваць дамы для іхнага прыпыну — поступ у задавальненьні ўсіх гэтых патрэбаў будзе вельмі памальны. У кажным разе, усё-ж тэмп эміграцыі ад сьнежня істотна ўзьняўся.

Урад Брытанскага Суспольства Народаў зрабіў умову зь IPO, паводля якое штогоду ў Аўстралію будзе прыбываць 12 000 перамяшчэнцаў з эўрапейскіх краёў; прадугледжваецца павялічыць гэты лік да 20 000, калі толькі можна будзе забясьпечыць патрэбны лік караблёў. У часе 1938-39 г. г. Аўстралія прыняла была больш за 18 000 неангельскіх Эўрапейцаў, зь іх 7 000 перасьледаваных нацыстаўскім рэжымам. Яны прынесьлі новыя веды й звычаі ды за невялічкімі выняткамі сьцьвердзілі сваё права на прытулак. Цяперашнія ўцекачы — гэта галоўна маладыя людзі да 30 год, ёсьць навет і да 20. Фізычна яны дасканальныя. Калі параўнаць да канадзкае спробы, дык можна сьцьвердзіць, што гэтыя людзі зробяць Аўстралію адным із найперадавейшых і наймацнейшых краёў.

IPO мяніцца прысылаць у Аўстралію 9 000 гэтых людзей яшчэ да канца чырвеня, і яшчэ колькі тысячаў да канца сёлетняга году. Першая група ў складзе 840 Летувісаў, Латышоў і Эстонцаў, што прыбылі сюды ў сьнежні, працуе на здыйманьні ўраджаю фруктаў, у драўлянай прамысловасьці, на ільняных плянтацыях і ў малачарнях. Ад пачатку работаў усе яны згуртаваныя ў вадным былым вайсковым лягеры ў Банэгільлі ля Альбуры на р. Мурэй. Частка зь іх знайшла працу пры вырабе цэглы, цымэнту й дахоўкі. Па адным або двух гадох гэтага працоўнага абавязку яны здолеюць заняцца працаю, якой захочуць. Працадаўцы ў кажным разе забавязаныя даць ім прытулак. Бальшыня 110 дзяўчатаў першае групы вышуканыя па цэлай Эўропе, каб зарадзіць пякучай нястачы машыністак у ўрадавых установах. Іншыя працуюць за сталовых або хатніх работніцаў у ўрадавых месцах у Канбэры, або па прыватных дамох, і некаторыя вучацца на даглядніцаў.

Новапрыбылыя вучацца там-жа ў Банэгільлі пад кіраўніцтвам групы настаўнікаў нямецкага паходжаньня, пры чым асаблівы націск кладзецца на чытаньне, гаворку й пісаньне паангельску, а таксама выкладаецца аўстралійскае права, грамадзкія звычаі й характар штодзённага жыцьця. Пры навучаньні ўжываюцца звычайныя й дакумэнтальныя фільмы.

Другая група ў складзе 850 асобаў, у тым ліку 230 Югаславаў, прыбыла на пачатку новага году й працуе галоўна на пільным рамоньце на чыгунцы. Праўда, адразу-ж 400 зь іх, разам із 200 зь першае групы, змушаныя былі, пакуль асяліцца ў лягеры, памагаць пры здыйманьні ўраджаю фруктаў у мясцовасьцях па р. Мурэй у паўдзённай Аўстраліі й Вікторыі, пагрожаных паводкаю.

Позным летам 1 000 Балтаў будуць пасланыя ў Квінсленд на жніво цукровага трысьця. Гэтая работа зашчадзіць 300 000 тонаў цукровага трысьця на суму 2 міліёнаў аўстралійскіх фунтаў стэрлінгаў, якія ў іншым выпадку мусілі-б застацца нязжатымі й маглі-б змушаць Ангельшчыну да купляньня цукру ў даляровых краёх.

Цяперака Ўрад Брытанскага Суспольства Народаў арганізуе курсы, на якіх уцекачы маглі-б вучыцца 4 гадзіны на тыдзень пасьля працы. Зьвязаныя з гэтым кошты пакрываюцца ўрадам.

(Паводля лёнданскае газэты «Таймс» ад 26. 4. 48).

**В. ВЕРАСЕНЬ**

# БЕЛАРУСКАЯ ГОМЕЛЬШЧЫНА

(Канчатак *)

Сялянства пачало пасыўна супраціўляцца калектывізацыі. У сяле Мохаў, Лоеўскага раёну, калгас «Гэрой працы» быў зарганізаваны адно тады, калі туды зьявіліся прадстаўнікі тагачаснага ГПУ і нядвузначна заявілі, што калі ня будзе калгасу, дык усё сяло (250 двароў) будзе зьнішчанае. У вадказ на гэтую пагрозу мохаўскія жанчыны пад усіхны сьмех пачалі падкідаць чакістых на «ура» з воклічамі «Гура нашым прадстаўніком» датуль, пакуль вопратка ў тых не пераварылася ў шмацьцё.

Сярод моладзі Гомельшчыны былі пашыраныя прыпеўкі, якія ўва ўсёй красе народнае творчасьці адлюстроўвалі «любоў» беларускага народу ба бальшавіцкае партыі й ейнага правадыра Сталіна.

Я быў сьветкам, калі ў сяле Петрыцкае, Брагінскага раёну, моладзь сьпявала:

«Гэй, жыва, жыва
Ўцякай з калектыва,
Сядай на ігрушу
Ратуй сваю душу».

І Беларус ратаваў яе. Той, каго сталінскія апрычнікі не ўхапілі заслаць у Котлас або Калыму, уцякаў на Данбас, дзе пад чужым прозьвішчам ішоў у капальні, або зусім уцякаў у Польшчу, у Лацьвію й інш. краі. Зьмяняў Маці-Радзіму на чужую зямлю, абы толькі выратавацца ад праціўнага яму калгасу, за плычыма якога стаяў савецкі кат-чэкісты...

**IV. Наступ на рэлігію.**

У часы калектывізацыі на балонах менскае бальшавіцкай газэты «Зьвязда» зьявіўся артыкул, у якім адзначалася, што жыхары гор. Лоева на Гомельшчыне, пераканаўшыся ў шкоднасьці рэлігіі, аднадушна пастанавілі зачыніць Траецкую царкву, а будынак скарыстаць пад клюб.

Гэтак было ў газэце, а ў запраўднасьці зусім інача. На загад ГПУ былі скліканыя мясцовыя актывістыя, якія на чале з начальнікам ГПУ Шаравам і сакратаром райкому камсамолу Васілём Палітыкаю ўначы, цікаючыся глухімі завулкамі, як зладзеі, падаліся да Траецкае царквы, якую й разрабавалі на працягу начы. Прыгожыя абразы, уборы мастацтва нашых прашчураў былі ператвораныя ў друзы і, як ламачча, перавезеныя на двор Мікалаеўскае царквы. Усе каштоўнасьці былі раскрадзеныя.

Мясцовыя жыхары, толькі на сьвітаньні спасьцерагі, як камуністы Васільлеў лез на купал, каб умацаваць там чырвоную анучу — сымбаль бальшавіцкае тыраніі. Вонгр наўкольныя вуліцы запоўніліся народам. Крык і енкі чуліся ў шэрым раньні зімовага дня. Выклікаль міліцыянэраў пасьцягвалі з коняй, яны былі пабітыя разгневаным натоўпам. Доўга таго раньня старыя Дняпро й Сож былі сьветкамі нячуваных зьдзекаў барбараў 20-га стагодзьдзя над сумленьнем гаротнага нашага люду.

Чырвонаяануча, якую павесілі на царкве, з часам выцьвіла, ператварылася ў брудна-шэрыя шматкі, наводзячы нуду на ваколіцы. Вецер сьпяваў сваю хаўтурную песьню, разгульваючы па спустошанай царкве, што стаяла бяз вокнаў і дзьвярэй.

Такім самым парадкам былі разбураныя сьвятыні ў Бывальках, Дзяражычах, Уборках, Холмечы, Дзятлавічах, Клімаве, Паддабранцы і інш.

Усюды гэта рабілася не на згоду народу, а ізь сьлязьмі й праклёнамі на чырвоныя катаў — нацыянальных варагоў беларускага народу.

Пасьля на Гомельшчыне не засталося аніводнае царквы, а ўсе сьвятары або былі забітыя, або павысыланыя ў «отдаленные места», дзе й пагінулі.

**V. Змаганьне йдзе далей.**

Уся Гомельшчына ізноў, разам з рэштаю Беларусі, апынілася пад чырвонай зьвяздой.

І зноў па родных рэках Дняпры, Сажы, Снову, Іпуці й Судасьці пацяклі сьлёзы бязьвінных пакрыўджаных удоваў і сіротаў, чые мужы, бацькі й браты дзесь далёка на Калыме, у Казахстане, у Сібіры за тое толькі, што яны Беларусы, капаюць руду, пракладваюць чыгункі, будуюць чартоўскія машыны зьнішчэньня, паміраючы ад голаду, трасцы й цынгі.

Але ёсьць весткі й іншыя. Гэтыя весткі аб тым, што непакорныя, моцныя духам із зброяй у руках запаўняюць Бранскія й Клінцоўскія лясы, Рэчыцкія балаты і, сьмела глядзячы сьмерці ў вочы, вядуць нязроўнае змаганьне за шчасьце й волю Беларуса на ўсёй Беларусі — ад Берасьця і аж да Зубцова, ад Бранску аж да Себежу.

(Канец).

*) Гл. № 17 (20).

